Pierasyłka apłačana ryčałtam.

Цана асобнага нумару **20** гр.

№ 1. Вільня, Субота 1 лістапада 1930 г. Год 1.

# БЕЛАРУСКІ КЛІЧ

**Палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарская газэта.**

| | | |
|---|---|---|
| Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1—32. | Орган аб'яднаных беларускіх незалежных партыяў. | Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 гадзіны што дня апрача сьвятаў і нядзелі. Цана з дастаўкай да хаты на месяц 1 зл. |

*Вільня 30 кастрычніка.*

## Беларускі кліч.

Кожная газэта, якая першы раз выходзе ў сьвет, павінна выясьніць сваім чытачом свае мэты і свой кірунак. Робім гэта і мы.

Ужо трэці раз беларускі народ аказаўся перад задачай правядзеньня ў польскія уставадаўчыя ўстановы сваіх выбарных людзей, сваіх паслоў. Ня лёгкай была гэта задача і ў папярэднія разы, але ніколі яна ня была так цяжкай і труднай, як гэты астатні раз. Чаму? — гэта зразумець ня трудна.

Ужо ня раз у беларускай прэсе выясьнялася, якое значэньне пры выбарах у Польшчы мае аб'яднаньне ў вялікія выбарныя групы. Выбарны закон, паводле якога робяцца выбары, састаўлены знароку так, з такім разрахункам, каб ува ўсіх выпадках даць перавагу найвялікшым групам. Гэткім чынам закон гэты меў на мэце забясьпечыць пасьпех польскім групам, як большасьці ў Польшчы. Вось дзеля чаго, у 1922 годзе усе меншасьці аб'ядналіся ў адзіны „Блёк нацыянальных меншасьцяў" і так стварылі вялікую групу. Думка была зусім правільная і гэта правільнасьць яе адразу адбілася на рэзультаце выбараў. «Блёк меншасьцяў» (16-ка) правёў у сойм у 1922 годзе разам 89 паслоў! У гэтым ліку было 25 паслоў украінцаў (ня гледзячы на тое, што тагды сусім не галасавала ў сойм цэлая Галіччына) і 10 паслоў беларускіх. Апрача таго прайшло 3 беларускіх сэнатараў. Беларускі пасольскі клюб у Сойме тагды складаўся з 13 асоб. Гэта ўжо была сіла, асабліва разам з украінцамі (клюб якіх складаўся больш як з 30 асоб), — сіла ўперад за ўсё на вонкі, бо з беларускім клюбам лічыліся іншыя партыі ў сойме і сэнаце, — сіла і ўнутры самога беларускага жыцьця, бо пры такой лічбе паслы мелі магчымасьць аб'яднаць свае вокругі і вясьці ўнутраньнюю палітычную і культурную працу.

Многа гарэй стаяла ўжо выбарная справа ў 1928 годзе. Гэты раз ужо паменшыўся і самы блёк, бо ў яго не ўвайшлі расейцы. Але гэта было ня так важна, бо яны не прадстаўлялі з сябе вялікай сілы. Многа горай было то, што падзяліліся на палітычныя групы самі беларусы і украінцы. У беларусаў уперад за ўсё выйшлі з блёку так званыя «грамадоўцы», а пасьля стварылася і так званая беларуская санацыя. Рэзультаты гэтага падзелу адразу і выявіліся. Украінцы Валыні, дзе яны ў 1922 годзе пабралі ўсе мандаты, ў 1928 не ўзялі ніводнага! Але ўкраінцаў выручыла на гэты раз Галіччына. Яна ўвайшла ў выбарны блёк і яны ўсё-ж агулам правялі ў сойм 26 паслоў ды ў сэнат 10, — разам — 36. Беларусы-ж, ды і то толькі дзякуючы саюзу з украінцамі, правялі ў Беларускі пасольскі клюб ужо толькі чатырох паслоў, ды яшчэ двух сэнатараў. Усяго шэсьць асоб. Разумеецца, у зьвязку з гэтым панізілася і справа. Гэтага ліку паслоў ледзьве хапала на ўнутраньнюю працу. Усёж-такі важным было для нашай справы, што хоць і мала, але былі нашы прадстаўнікі ў Сойме. Відаць гэта хоць-бы з таго, што гэты беларускі клюб дабіўся асыгноўкі на беларускія культурна-асьветныя ўстановы аж цэлага поўміліёна.

У гэты цяперашні раз наша выбарная справа стаіць яшчэ трудней. Уперад за усё стала цяжэйшай барацьба з польскімі групамі, бо яны, зразумеўшы сілу і значэньне аб'яднаньня, сталі злучацца ў вялікія выбарныя блёкі. Па першае стварыўся так званы безпартыйны блёк супрацоўніцтва з урадам (Б.Б), а па другое — злучыліся ўсе левыя польскія партыі ў адзіны саюз апазыцыі проціў Б.Б. Замест папярэдніх розных «Пэпээсаў», «Вызваленьняў» «Страніцтваў Хлопскіх» і г. д. маем адзіны блёк, так званы „Цэнтралеў".

Наадварот — наш «Блёк народных меншасьцяў» распаўся. Выдзяліліся з яго жыды і немцы, у якіх ужо стварыліся асаблівыя палітычныя інтарэсы. Але ўсё ж асталіся з намі самыя галоўныя нашы саюзьнікі—украінцы, якія заўсёды тварылі галоўную сілу гэтага блёку. Пры гэтакіх варунках для нас стала яшчэ важней наша ўнутраньнее аб'яднаньне і аб'яднаньне з украінцамі. Гэта адразу зразумелі ўкраінцы, і таму ўсе іхныя палітычныя групы, апрача тых, якія носяць у сабе камуністычную ідэолёгію або ідуць з урадам, аб'ядналіся ў адзіны „Украінскі Выбарны Блёк", які запрапанаваў саюз з намі. Дзеля гэтага і наш «Беларускі Нацыянальны Камітэт», які складаецца з прадстаўнікоў усіх незалежніцкіх беларускіх палітычных партыяў, выдаў адозву, заклікаючую да аб'яднаньня ў адзіны „Беларускі Выбарны блёк" усіх беларускіх палітычных арганізацыяў. На гэты кліч адклікнуліся ўсе беларускія арганізацыі з незалежніцкай ідэолёгіяй. Не ўвайшлі ў яго толькі тыя, у якіх погляды блізкія да камуністычных, ды яшчэ нашае няшчасьце—беларуская „санацыя". Праўда, гэтая „санацыя" згаджалася ўвайсьці ў „Беларускі Блёк", але пад варункам, каб мы разарвалі наш блёк з украінцамі. У гэтым адразу выявілася мэта іх арганізацыі — ня злучаць, а разьбіваць нашыя сілы. Але-ж гэта невялікая для нас утрата. Гісторыя з Вернікоўскім, Паўлюкевічам, Янкам Станкевічам паказвае нам, які лёс чакае і гэтую санацыю.

Затое нам удалося аб'яднаць усе іншыя беларускія арганізацыі і ўтрымаць саюз з украінцамі, злучанымі у адзіны саюз, і стварыць з імі адзіны „Украінска-Беларускі Блёк". Гэта адразу робіць нашу арганізацыю найпаважнейшай сярод беларускіх арганізацыяў. Выяўляецца гэта ў тым, што толькі нашаму Беларуска-Украінскаму Блёку удалося падаць дзяржаўную лісту, якая атрымала № 11. Гэты самы нумар будуць мець і ўсе сьпіскі нашыя па ўсіх акругох і беларускіх і ўкраінскіх.

У знак нашага аб'яднаньня, — аб'яднаньня ўсіх беларускіх і ўкраінскіх сіл, усе беларускія партыі, якія увайшлі ў гэты агульна беларуска-украінскі саюз парашылі спыніць на час выбараў усе свае партыйныя газэты і выдаваць адну выбарную газэту, якая будзе называцца „Беларускі Кліч." Гэта наша газэта і ёсьць сапраўдным нашым нацыянальным беларускім клічам да ўсяго сьвядомага беларускага грамадзянства аб'яднаньня ў нашай выбарнай працы.

Мы не зачыняем вочы на тое, што праца гэта будзе пры сяньняшніх варунках цяжкая, але тым больш трэба аб'яднацца ў адзіную арганізацыю, у адзіную беларускую сілу.

## Чаму з Украінцамі?

У справе аб'яднаньня беларусаў на выбары пад адзіны народны беларускі сьцяг першы выступіў з заклікам Беларускі Нацыянальны Камітэт.

У адказ на гэты заклік беларуская санацыя стварыла асобны выбарны камітэт, склікала прадвыбарны палітычны „зьезд" пад пакрыўкай культ.-прасьв.-гасп. „Цэнтрасаюзу", напісала палітычную праграму ў форміе „наказу" для паслоў і выступіла на выбарную арэну, як палітычная арганізацыя.

Такім чынам першы крок „наша" санацыя зрабіла ў кірунку разьбіваньня беларусаў унутры. Але на гэтым „слаўны" „Цэнтрасаюз" не затрымаўся і пачаў пробаваць разьбіць беларуска-ўкраінскі блёк.

Карыстаючыся заклікам Бел. Нац. К-ту да аб'яднаньня беларусаў у адзіны агульна-беларускі блёк, „наша“ санацыя прыступае да перагавораў з прадстаўнікамі Нац. К-ту ў справе стварэньня агульна-беларускага выбарнага фронту.

У гэтых перагаворах „наша“ санацыя галоўным пунктам паста віла справу блёку беларусаў з украінцамі. Пачуўшы адказ, што Бел. Нац. К-т натуральны саюз з украінцамі ўважае за правільны і цэнны для беларускай справы, прадстаўнікі “Цэнтрасаюзу“ адлажылі далейшыя перагаворы на другі дзень і пашлі нараджацца з павадырамі полёнофільскага фронту. На другі дзень тыяж прадстаўнікі „Цэнтрасаюзу“ даручылі прадстаўніком Нац. К-ту ультыматыўнае пісьмо, у якім патрэбавалі, каб Беларускі Нац. К-т у працягу 24 гадзін сарваў саюз з украінцамі і тады толькі яны—полёнофілы—могуць гаварыць аб агульна-беларускім блёку.

З гэтых перагавораў выясьнілася, што беларуская палітычная справа пастаўлена беларускай санацыяй прад абліччам дзьвюх шкодных спраў—разрыў з украінцамі і разьбіцьцё ўнутры. Прышлося выбіраць з дзьвюх шкодных спраў: каторую з іх ліквідаваць, а каторую пакінуць. Нац. К-т уважаючы, што выступленьне беларускай санацыі на выбары асобным сьпіскам ёсьць менш шкоднай справай для беларусаў, чымсь разрыў натуральнага саюзу з украінцамі, пастанавіў ісьці на выбары з украінцамі.

Чаму Нац. К-т не згадзіўся сарваць саюзу з украінцамі і ўважае за меншае зло выступленьне асобным сьпіскам на выбары „цэнтрасаюзу“ ад зрыву саюзу з украінцамі?

Беларуска-ўкраінскі саюз—гэта дагавор пісаны ня ўмовамі на пісьме, а гэта саюз супольнай долі і нядолі народаў Беларускага і Украінскага. Беларуска-украінскі саюз заключаны мінуўшчынай і закрэплены сучаснасьцяй. Дзеля гэтага ні адзін чэсны беларус не пасьмеліцца пайсьці па лініі разрыву гэтага натуральнага саюзу.

Сьцьвярджаючы факт натуральнага беларуска-украінскага саюзу, не ад рэчы заглянуць і ў нядаўнюю мінуўшчыну, 1918 г., калі народ Беларускі заявіў цэламу сьвету, што Беларусь жыве. Хто тады першы падаў руку народу Беларускаму? Братні народ Украінскі. Аб гэтым хіба ня помніць толькі А. Луцкевіч, які тады пасылаў прадстаўнікоў ад беларусаў да украінцаў, а цяпер, як палітычны кіраўнік „Цэнтрасаюзу“—праціўнік беларуска-украінскага блёку!

Хто стаў пляче з плячом з беларускімі паслямі ў польскім парляманце да абароны правоў беларусаў на раўні з сваімі? Паслы украінскія.

Вось гэта і ёсьць тыя некаторыя з многіх фактаў, якія напісаны гісторыяй і беларуска-украінскі саюз закрапляюць.

Што датыча „Цэнтрасаюзу“, дык шлях палітычнай лініі яго беларускаму грамадзянству ведамы. Па гэтым шляху йшлі Паўлюкевіч з Умястоўскім, а цяпер пробуе па гэтай лініі павесьці беларускі народ А. Луцкевіч з іншымі сябрамі „Цэнтрасаюзу“.

Аб тым, што „Цэнтрасаюзу“ задуманы плян ня ўдасца, больш чым пэўны, бо здаровы беларускі арганізм адкіне і гэты суррогат, як ня раз ужо адкідаў. На гэткія мікробы беларускі арганізм ужо адпорны.

Незалежнік.

# 500-летні юбілей князя Літвы і Беларусі Вітаўта Вялікага.

Літоўска-беларускі „Юбілейны Камітэт Вітаўта Вялікага“ ладзіў 27 г. м. у Вільні ўрачыстае сьвяткаваньне—500-ую гадаўшчыну сьмерці вялікага князя Літвы і Беларусі Вітаўта Вялікага.

Літоўскае і беларускае грамадзянства, належна ацэніваючы традыцыйную мінуўшчыну і ідэолёгію Вітаўта Вялікага з прад 500 гадоў таму, якая бараніла поўную незалежнасьць нашага краю, у сьвяткаваньні прыняло масавы ўдзел, зазначаючы сваю салідарнасьць і вернасьць ідэолёгіі Вялікага Вітаўта.

А гадзіне 10 раніцы ў найстарэйшым у Вільні касьцеле сьв. Мікалая ў прысутнасьці напоўненага біткам народу і многай лікам асысьце духавенства адбылося ўрачыстае аткрыцьце і пасьвячэньне памятніка Вітаўту Вялікаму. Пасьля кароткай малітвы і пасьвячэньня памятніка былі сказаны адпаведныя ўрачыстасьці два казаньні: — па літоўску гаварыў кс. Чыбірас, па беларуску кс. В. Гадлеўскі. Пасьля казаньняў адпраўлена была ўрачыста Імша з асыстай духавенства, у часе якой вельмі прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам гр. Судэйкі. Набажэнства закончана ўрачыстым касьцельным гымнам: „Цябе Бога хвалім“.

У касьцеле на ўрачыстасьці прысьвечанай Вітаўту Вялікаму апрача літоўцаў і беларусаў былі також прадстаўнікі народу Украінскага, віленскага грамадзянства польскага: — прэзыдэнт м. Вільні п. Фоліеўскі, кс. Мацэвіч, кс. кан. Мілкоўскі, рэд. Л. Абрамовіч і іншыя.

А гадзіне 7 па паўдні адбылася ўрачыстая акадэмія ў вялікай салі „Apollo“ у доме літоўскіх культурна-прасьветных арганізацыяў. Вагромная саля ледзь змагла зьмясьціць учасьнікаў прыймаючых удзел у сьвяткаваньні юбілею.

На эстрадзе удэкараванай беларускім і літоўскім нацыянальнымі сьцягамі, прад удэкараваным бюстам Вітаўта за прэзыдыяльным сталом заняў мейсца беларуска-літоўскі юбілейны камітэт: беларусы — кс. Ад. Станкевіч, б. сэнатар В. Багдановіч, б. пасол Ф. Ярэміч і д-р Б. Грабінскі, літоўцы — кс. праф. Краўяліс, п. Сташыс, кс. Вісконт, д-р Альсэйка і дыр. Шыксніс.

Пасьля кароткай прамовы старшыні юбілейнага к-ту дыр. Шыксніса пачаліся рэфэраты аб Вітаўце Вялікім.

Па літоўску прачыталі рэфэраты: — кс. праф. Краўяліс і д-р Алсэйка.

Па беларуску прачытаў рэфэрат кс. Ад. Станкевіч на тэму „Вітаўт Вялікі і Беларусы“. Рэфэрат кс. Станкевіча, які па свайму зьместу вельмі глыбокі, з моцным пад'ёмам духа, высьвятляючы супольны ідэал і мэту народаў Літоўскага і Беларускага ў мінуўшчыне і сучаснасьці, на прысутных зрабіў вялікае ўражаньне.

Па заканчэньні рэфэратаў вялікай сілы хор у лучнасьці з духова-смычковым аркестрам пад кіраўніцтвам праф. Галкоўскага выканаў захопліваюча прыгожы інструмэнтальна-вокальны музычны твор. Дапаўненьнем прыгожасьці канцэртнага аддзелу акадэміі быў пекны сьпеў салісткі п. Французэвічанкі і харальная прадукцыя народнай песьні.

Урачыстае сьвяткаваньне закончылася таварыскім пачастункам — раўтам. На гэты пачастунак зышлося даволі многа людзей: літоўцаў, беларусаў, украінцаў, а так-жа і палякаў і жыдоў.

На гэтым раўце было сказана бяз ліку прамоваў у розных мовах: па літоўску, беларуску, па украінску, па жыдоўску, і па польску аб Вітаўце Вялікім і вялікім саюзе трох народаў — Беларускага, Літоўскага і Украінскага.

П-к.

# Плятформа

Агульнага Беларускага Выбарнага Камітэту «Украінска-Беларускага Блёку»

Абавязкам кожнага Беларуса, які пройдзе ад гэтага Камітэту ў будучыя Польскія Парлямэнтарныя Палаты павінна быць:

**I. Абарона агульна-палітычных правоў і грамадзкай свабоды Беларускага Народу.**

Камітэт уважае, што палітычным ідэалам кожнага народу ёсьць яго поўная палітычная і культуральная незалежнасьць, а сьвятым палітычным правам павінна быць справа свабоднага самастанаўленьня аб сваей палітычнай і нацыянальнай долі.

Імкнучыся да зьдзейсьненьня гэтага ідэалу і гэтага права, як сваей канцовай мэты, у сучасны момант, як народ складаючы частку тэрыторыі насяленьня Польскае Рэспублікі, Беларускі Народ, жывучы ў Польскай Дзяржаве, павінен карыстацца тою поўнай свабодаю і роўнасьцю з другімі насяляючымі Польшчу народнасьцямі, якія ўстаноўлены Канстытуцыяй Польскае Рэспублікі.

Гваранцыяй гэтай свабоды Камітэт уважае:

a) дапушчэньне Беларусаў на абшарах беларускіх земляў у Польшчы бяз усялякіх аграніччэньняў на адміністрацыйныя ўрады ўсіх інстанцыяў, b) поўныя правы беларускае мовы ў адміністрацыі і судох, c) поўную свабоду грамадзкай, культурнай і эканамічнай арганізацыі, d) свабоду слова, сходаў, друку, e) выдзяленьне беларускіх часьцін з польскіх адміністрацыйных вокругаў, куды яны далучаны з асобнымі палітычнымі мэтамі, f) свабода выбараў у самаўрады, g) незалежнасьць выбарных і міравых судзьдзяў, h) скасаваньне даразных (палявых) судоў і кары сьмерці.

**II. Змаганьне за зямлю і абарону лясоў і прыродных багацьцяў.**

Падставай зямельнай рэформы Камітэт уважае:

Зямля працоўнаму народу на правох уласнасьці! Зямля ня можа служыць мэтам польскай калянізацыі на беларускіх абшарах. Лясы і іншыя прыродныя багацьці павінны ісьці на адбудову і палепшаньне дабрабыту Беларускага Народу.

Гваранцыяй гэтага Камітэт уважае:

Хутчэйшае правядзеньне ў жыцьцё зямельнай рэформы: падзел зямлі паміж працоўнымі масамі бяз выкупу і на кошт скарбу.

**III. Змаганьне за правы і інтарэсы работнікаў.**

Камітэт уважае права працы адным з першых і найважнейшых правоў кожнага грамадзяніна Рэспублікі. Дзяржаўныя законы павінны абараняць кожнага работніка ад уціску і эксплёатацыі капіталу і забясьпечваць яму магчымасьць працы і ўтрыманьне ў старасьці ці пры ўтраце працаспасобнасьці.

Гваранцыяй гэтых правоў Камітэт уважае: a) увядзеньне 8-гадзіннага рабочага дня, як рабочай нормы, b) свабоду рабочых і прафэсіянальных арганізацыяў, c) дзяржаўная, ці на кошт прадпрыемства страхоўка работнікаў ад хваробы, калецтва і на старасьць, d) ахрану працы малалетніх і жанчын, e) зьмяншэньне рабочага дня ў прадпрыемствах шкодных для здароўя, f) мінімум заработнае платы, g) выдачу безработным запамогаў.

**IV. Змаганьне за зьмяньшэньне падаткаў і палепшаньне эканамічнага жыцьця.**

Сродкамі для палепшаньня эканамічнага жыцьця Камітэт уважае: a) правядзеньне ў зямельнай рэформе камасацыі і хутарскага гаспадарства, b) у лясной рэформе ўжываньне лясоў перадусім на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак, c) танныя крэдыты на паляпшэньне сялянскіх гаспадарак, d) паменшаньне падаткаў ад малазямельных і бедных, e) спыненьне падаткаў ідучых на мілітарызацыю і вялікадзяржаўныя мэты, f) дзяржаўныя запамогі ў справе разьвіцьця коопэрацыі, g) у мэтах пашырэньня гаспадарчай культуры імкнуцца да адчыненьня магчыма большай лічбы гаспадарчых школаў.

**V. Абарона роднай школы.**

Свабоднае ўжываньне роднай мовы ў поўнай меры як у прыватным, так і грамадзка-палітычным жыцьці Камітэт уважае за найважнейшае і сьвятое права кожнага грамадзяніна.

Гваранцыяй гэтага Камітэт уважае: a) увядзеньне беларускай мовы ў школы ўсіх ступеняў, b) неадкладнае адчыненьне патрэбнай паводле заяў колькасьці беларус-

**Браты Беларусы!** Памятайце, што ў еднасьці сіла. Дык не разцярушчывайце еднасьці і ўсе, як адзін, мужчыны і жанчыны ў дзень 16 лістапада ў Сойм і ў дзень 23 лістапада ў Сэнат галасуйце за **№ 11**

## З Беларускага жыцьця.

### ПАД ПОЛЬШЧАЙ.

**Выбарныя справы.** Дзеля кіраваньня выбарнай акцыяй Беларускі Нацыянальны Камітэт зарганізаваў сьпярша Выбарную Камісію, якая вяла перагаворы ў справе блёку на выбары. Гэта камісія, наладзіўшы выбарны апарат, заключыўшы блёк з украінцамі і прывёўшы да парадку справу выбарную ўнутры сярод беларусаў, перадала свае справы выбарнаму на агульным сходзе Нац. К-ту Агульна Беларускаму Выбарнаму Камітэту, які складаецца з 7 асоб. Выбарны Камітэт, прэзыдыюм якога складаецца з 3 асоб: старшыня б. пасол. Ф. Ярэміч, віцэстаршыня б. сэнатар В. Багдановіч і сэкрэтар Я. Пазьняк, падаў разам з украінцамі дзяржаўны сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат пад назовам „Украінскі і Беларускі Выбарны Блёк,“ каторы атрымаў № 11 і сьпіскі кандыдатаў у Сойм і Сэнат у вокругах.

У вокругах: Остраў Мазавецкі і Горадня сьпіскі кандыдатаў у Сойм і ў Беластоцкім вокрузе сьпіскі кандыдатаў у Сэнат не паданы ў выбарныя акружныя камісіі з прычын незалежных ад Агульна-Беларускага Выбарнага К-ту.

**Касаваньне беларускіх сьпіскаў кандыдатаў у Сойм і Сэнат „Украінска-Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11.** У Наваградзкім вокрузе акружная выбарная камісія скасавала беларускія сьпіскі кандыдатаў „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11 у Сойм і Сэнат. Такім чынам выбаршчыкі беларусы Навагрудскага вокругу ў гэтыя выбары ня маюць свайго беларускага сьпіску ў Сойм, а выбаршчыкі беларусы Наваградзкага ваяводзтва ня маюць сьпіску ў Сэнат.

Пры гэтым трэба дадаць, што паўнамоцнік сьпіску „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11 Наваградзкага вокругу грам. Міхнюк арыштаваны.

Скасавалі так-жа сьпісак „Украінска-Беларускага Блёку“ № 11 у Беластоцкім вокрузе і арыштавалі кандыдатаў яго.

**У Лідзкім вокрузе беларускі сьпісак кандыдатаў у Сойм „Украінскага і Беларускага Блёку“ № 11 скасаваны.** Такім чынам выбаршчыкі беларусы Лідзкага вокругу ня маюць свайго беларускага сьпіску ў Сойм і ў гэтыя выбары, як ня мелі і ў 1928 г.

**Зацьверджаны беларускія сьпіскі „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11 толькі ў вокругах:** Сьвянцянскім і Віленскім у Сойм і ў Сэнат на Віленскае ваяводзтва.

**Кандыдаты ўцалеўшых беларускіх сьпіскаў „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11.** У Сьвянцянскім вокрузе на сьпіску кандыдатаў у Сойм „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ №11 на першым мейсцы стаіць інжынер Адольф Клімовіч, ведамы беларускі дзеяч і працаўнік на ніве беларускага адраджэньня.

Інжынер Клімовіч паходзіць з вельмі беднай беларускай сялянскай сям'і з вёскі Казаноўшчыны, Сьвянцянскага пав. У часе сусьветнай вайны працаваў дзеля адраджэньня Беларускага народу, як вучыцель. Пасьля выехаў за граніцу ў Чэскую Прагу на вышэйшыя навукі, дзе і скончыў агрономію з навуковым тытулам інжынера. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну пасьвяціў сябе і сваю веду дзеля падняцьця гаспадарскай культуры беларускага сялянства. У 1929 г. забраны ў войска, якога ў належны час з прычыны студыяў заграначных адбыць ня мог. У войску, скончыўшы афіцэрскую школу, раптоўна захварэў, паддаўся опэрацыі і праляжаўшы ў шпіталі каля 2-х месяцаў, вярнуўся гэтымі днямі ў Вільню і прыступае да працы грамадзкай.

На 2 мейсцы стаіць Фэлікс Цікота, безьзямельны селянін з засьц. Плавушка, Вялейскага пав., ведамы змагар за правы беларускага народу на грунце слаўных Жодзішак.

На 3 мейсцы стаіць д-р мэдыцыны Станіслаў Грынкевіч, сын селяніна Сакольскага пав., ведамы беларускі пісьменьнік.

**Кандыдаты па сьпіску ў Сэнат „Украінскага і Беларускага Выбарнага Блёку“ № 11 у Віленскім ваяводзтве.** На 1 мейсцы стаіць б. сэнатар Вячэслаў Багдановіч, які ад 1922 году трымаў стойка беларускі незалежны сьцяг, змагаючыся за правы беларускага народу.

На 2 мейсцы стаіць сэнатар Базыль Рагуля, які, засуджаны акружным судом на 2 гады катаргі за прамову да народу ў часе сваей пасольскай працы, цяпер сядзіць у вастрозе.

Базыль Рагуля ўжо шырока ведамы сярод беларускага народу з сваей энэргічнай дзейнасьці на ніве грамадзкай.

**Суд над Б. Рагуляй.** 13 г. м. адбудзецца апэляцыйны суд у Вільні над засуджаным акружным судом на 2 гады катаргі за палітычнае выступленьне Б. Рагуляй.

**Канфіската „Шляху Моладзі“.** Па загаду адміністрацыйных уладаў у мінулым тыдні сканфіскаваны № 11 часопісі беларускай Моладзі „Шлях Моладзі.“

**Сьмерць гр. Куніцкага.** 28-га кастрычніка памёр у Любчы ад запаленьня мозгу Іван Ігнацьевіч Куніцкі, ведамы беларускі дзеяч, кандыдат па Наваградку і Пінску ў Сойм у 1928 г. і ў гэтым годзе.

З поваду гэтага беларускі Нацыянальны Камітэт выслаў бацьку яго гэтакую дэпэшу:

„Беларускі Нацыянальны Камітэт выражае Вам найшчырэйшы спагад з поваду перадчаснай сьмерці Вашага сына. Вечная памяць і чэсьць вернаму сыну Беларускай Зямлі і шчыраму барацьбіту за лепшую долю Беларускага Народу.“

### З РАДАВАЙ БЕЛАРУСІ.

**Г. Багдановіч у турме ў Менску.** З Рад. Беларусі надыйшлі весткі, што быўшы вучыцель Віленскай Беларускай Гімназіі Геннадзі Багдановіч (родны брат сэнатара В. Багдановіча) знаходзіцца ўжо больш месяца ў Менскай турме. У чым яго абвінавачываюць бальшавіцкія ўлады, пакуль яшчэ няведама. Г. Багдановіч выехаў у Радавую Беларусь у 1924 годзе, бо ня мог знайсьці тут працы, калі польскі ўрад ня даў яму абыватэльства і пазбавіў права выкладаньня ў гімназіі.

* * *

У вас мяцеліца кругом
Учора цэлы дзень круціла
І ўюга пад маім вакном
Ваўком галодным галасіла.
Па небу вецер хмары гнаў,
І пад вакном маім стагнаў,
І рваў астатнюю салому,
І трос як ліпку стары дах,
І наганяў на сэрца жах
І страшна было выйсьці з дому!
Сягоньня-ж... паглядзі ў вакно,
Марозам прыбрана яно
А праз яго як сьвеціць сонца
А сьнег на сонцы мігаціць...
Я веру—шчасьце заблішчыць
За горам і ў маей старонцы!

Л. Б.

## „Модныя радыкалы“.

Пры сучасным палітычным палажэньні і гаспадарчым крызысе, які гне ў дугу амаль увесь сьвет, пакрыўджаныя народы і клясы шукаюць выхаду рознымі спосабамі.

За спосаб скасаваньня цяжкіх палітычных абставінаў некаторыя ўважаюць перагляд мірных дагавораў, якія паваенную Эўропу паразграпічывалі няўдалымі граніцамі. Іншыя ўважаюць, што неабходна зьмяніць грамадзкі лад на ўсім сьвеце, касуючы лад дасюлешні, а на месца старога ладу завясьці нейкі новы. Многія кажуць, што трэба даць роўныя правы палітычныя кожнаму народу. Каб кожны народ быў сам сабе гаспадаром, дык тады на сьвеце будзе супакой і тады людзкасьць дойдзе да сапраўднага ладу і скасуе ўсякія палітычныя непаразуменьні і гаспадарчыя крызысы.

Гэтыя думкі і імкненьні бязумоўна радыкальныя, а тыя людзі, якія ў гэтым кірунку працуюць, называюцца радыкаламі. Але вось на беларускім небасхіле зьявіліся і іншага роду радыкалы — А. Стэповіч з К. Юхневічам.

Каб адрожніць іх ад сапраўдных радыкалаў, трэба назваць гэтую „арганізацыю“ з двух быўшых паслоў, якія не апраўдалі свайго даверу прад народам, „модныя радыкалы“.

Чым-жа розьняцца гэтыя „модныя радыкалы“ ад радыкалаў сапраўдных? Рожніца між аднымі і другімі аграмадная. Сапраўдныя радыкалы маюць на мэце справы палітычна-грамадзкія, а „модныя радыкалы“—чыста асабістыя, каб за ўсякую цану дарвацца да поўнага карыта.

Каб бліжэй падыйсьці да „ідэолёгіі“ паўзьні да поўнага карыта „модных радыкалаў“, неабходна прасьледзіць іх шлях барацьбы за пасольскія мандацікі.

Ведама, што А. Стэповіч і К. Юхневіч мелі ўжо шчасьце пабываць пасламі два з палавінаю гадоў. Не зважаючы на тое, што елі яны хлеб пасольскі ня так доўгі час, але смак яго вельмі ўспадабалі.

Што зрабілі добрага Стэповіч з Юхневічам, будучы пасламі для народу? Проста анічагусенькі.

Арганізаванае беларускае грамадзянства, ацэніваючы належна бяздзейнасьць Стэповіча і Юхневіча, як паслоў, пастанавіла ў Сойм больш іх не праводзіць. Спаткаўшыся з такою грамадзкай апініяй, Стэповіч з Юхневічам пачулі сябе „пакрыўджанымі“ і пастанавілі за ўсялякую цану дарвацца да рашкі — соймавай касы. Выламаліся з пад арганізацыйнай дысцыпліны, стварылі свой асобны сьпісак, громка назвалі яго „Сьпісак Беларускіх Незалежных Радыкалаў“ і выставілі сябе кандыдатамі ў паслы на гэтым сьпіску ў Сьвянцянскім вокрузе.

У гэтым і ўвесь радыкалізм „модных радыкалаў“ Стэповіча і Юхневіча.

Спадзяемся, што і выбаршчыкі Сьвянцянскага вокругу ў час пазнаюцца на „радыкалізьме“ Юхневіча-Стэповічаўскім і належна аднясуцца да іхняга сьпіску, не падаючы аніводнага голасу за гэтых „модных радыкалаў“.

Т.

кіх школаў, c) адчыненьне беларускіх вучыцельскіх сэмінарыяў, d) навучаньне ў ніжэйшай школе павінна адбывацца на роднай мове, e) утварэньне пры міністэрстве асьветы асобнага аддзелу з правам аўтаномнага кіраваньня беларускай асьветай, f) утварэньне ў галоўных беларускіх гарадох беларускіх школьных інспэктаратаў.

**VI. Абарона поўнае свабоды ўсіх рэлігіяў.**

Камітэт уважае рэлігію і рэлігійныя перакананьні за найсьвяцейшае права ўнутранага самаазначэньня кожнага чалавека, дзеля чаго стаіць за поўную свабоду рэлігіяў і незалежнасьць ад дзяржавы рэлігійных арганізацыяў, за свабоду іх унутранага ўстройства паводле іх рэлігійных правілаў, свабоднае выкананьне рэлігійных абрадаў і багаслужэньня.

Гарантыяй гэтай свабоды Камітэт уважае:

а) Рэлігійныя арганізацыі карыстаюцца правам юрыдычнай асобы, b) увядзеньне ува ўсім царкоўным і касьцельчым рэлігійным жыцьці беларускай мовы.

**VII. Змаганьне за ўсё, што вядзе да нацыянальнага, палітычнага і эканамічнага вызваленьня Беларускага Народу і яго лепшай будучыні.**

**Агульна Беларускі Выбарны Камітэт „Украінска-Беларускага Блёку“.**

Вільня, Людвісарская вул. 1—32.
Дня 28 верасьня 1930 г.

